першая кніга паэта / 75

# віктар гардзей

# касавіца



ВІКТАР ГАРДЗЕЙ НАРАДЗІЎСЯ
Ў 1946 ГОДЗЕ Ў ВЁСЦЫ МАЛЫЯ КРУГОВІЧЫ
НА ГАНЦАЎШЧЫНЕ. СКОНЧЫЎШЫ
КРУГОВІЦКУЮ СЯРЭДНЮЮ ШКОЛУ,
ПРАЦАВАЎ У ЛЯХАВІЦКАЙ РАЁННАЙ ГАЗЕЦЕ.
ЗАРАЗ — АДКАЗНЫ САКРАТАР
ГАНЦАВІЦКАЙ РАЙГАЗЕТЫ
«САВЕЦКАЕ ПАЛЕССЕ».
ЗАВОЧНА ВУЧЫЦЦА Ў БДУ
ІМЯ У. І. ЛЕНІНА.
ВЕРШЫ ВІКТАРА ГАРДЗЕЯ ДРУКАВАЛІСЯ
Ў ГАЗЕТАХ «ЗВЯЗДА»,
«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»,
«ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА», «СЕЛЬСКАЯ ГАЗЕТА»,
У ЧАСОПІСЕ «МАЛАДОСЦЬ»
І АЛЬМАНАХУ «ДЗЕНЬ ПАЭЗІІ».

# віктар гардзей

# касавіца

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1975

## НА СУБОТНІКУ

Працуем так —
аж узмакрэлі плечы.
Цягаем,
грузім цяжкія камлі.
Яшчэ далёка
з парнай лазняй вечар.
Яшчэ, як горы,
лесу штабялі.

Пад ношай
не дрыжаць у нас калені.
А́дно
гудуць напята жылы рук.
І кожны грузчык,
скінуўшы палена,
Выпростваецца рэзка,
быццам лук.

Слабы на эстакадзе —
не работнік.
Нібы пушынку,
бервяно нясі.
Камуністычны
ленінскі суботнік —
Паверка
і яднанне нашых сіл.

Мы не баімся ні вятроў,
ні слоты.

Суботнік —
светлай будучыні кліч.
І ладзіцца,
і спорыцца работа,
Нібы працуе поплеч сам Ільіч.

## ГОРАД НАД ЦНОЮ

Часам мы здзіўляемся: як скора
Вырастаюць сёння гарады!
Ну, а мой палескі ціхі горад,
Можа, самы-самы малады.
Самы юны, самы ён зялёны,
Самы дарагі для землякоў.
Знішчаны, дашчэнту спапялёны,
Горад зноў узняўся між лясоў.
Між балот, над Цною-паляшанкай
Каміны заводаў паплылі.
І заўсёды ім вясновым ранкам
Салютуюць трубна жураўлі.
Жураўлі — у небе, а на плошчы —
Шустрыя чародкі галубоў.
Па-над плошчай вецярок палошча
Чырвань прадсвітальную сцягоў.
Ім гарэць спякотным днём і ў слоту,
Бо яны — надзея ўсіх людзей.
Горад мой таму й цаніў работу,
Бо хацеў штораз быць маладзей.
Для таго, каб будаваць палацы,
Весці магістраль сярод балот;
Для таго, каб у з'яднанай працы
Нечуваны шчасця быў узлёт.
Вось чаму над Цной ціха-цнатлівай
Ганцавічы — блаславёны кут...
Можа, самы юны і шчаслівы,
Самы даражэйшы горад тут!

## ДВАЦЦАТЫ ВЕК

Стагоддзяў,
што мінулі,—
цэлы лес,
Амаль забытых,
розных і маўклівых.
Дваццаты век,
ты дрэўцам пасталеў,
Шмат перажыў,
і самы ты шчаслівы.

Ты з багны
кволым парасткам прарос,
Набраўся сіл,
не падружыў з іконай.
Высока праўду
і надзею ўзнёс
Сваёю пышнай густалістай кронай.

Ты шчасцю
больш сваіх галін аддаў
І менш іх даў
няпраўдзе і падману.
Таму вышэй усіх сабратаў стаў,
Узняўся ў неба гордым веліканам.

Вайной
знявечаных бяроз і верб
Да сонца
смела цягнуцца галіны.

Дваццаты век,
ты з імі аджывеш,
І згладзяцца глыбокія маршчыны!

І да канца не будзеш ты прасіць
У хцівасці і здрады прымірэння;
Жыццё не менш шчаслівае дасі
Вякам наступным з моцнага карэння.

## РАДЗІМА

Я такой матулю уяўляю:
У стракатай хустачцы
яна
Дажынае нашу ніўку з краю,
Загарэлая,
як збажына.

І у гэты ж час
перад вачыма
На увесь абсяг сваіх граніц,
Дарагая,
любая Радзіма,
Паўстаеш ты ў сполахах зарніц!

Помню тыя
цяжкія хвіліны,
Як без маці апусцеў наш дом,
Як мяне Радзіма,
быццам сына,
Атуліла ласкавым крылом.

Хоць вятроў
нямала прашумела
І прыціхнуў боль той
праз гады,
Ты, Радзіма,
што мяне сагрэла,
І цяпер патрэбна,
як тады,—

Для мяне такая ж дарагая,
Для мяне такая ж,
                    як яна,
Што яшчэ ўсё ніўку дажынае,
Загарэлая,
                    як збажына...

## ПАСОЛЕНАЯ ДАРОГА *

У воблаках-сумётах
стыне неба.
На дрэвах
чэрвень лісце запыліў.
Дарогу, што іду,
як лусту хлеба,
Князь Радзівіл калісьці пасаліў.

Тады, я чуў,
жыты стаялі ў полі,
А тут бялеў гасцінец,
быццам снег.
Цікава мне:
колькі трэба солі,
Каб распісных вазкоў быў лёгкі бег?

Гасцей замежных князь на ўцеху клікаў,
Ляцелі коні між прысад густых.
Сам Радзівіл ажно шалеў і гікаў
На лёкаяў сваіх і вараных.

Імчалі коні з грузнымі панамі,
А сэрцы батракоў агортваў боль:
З гразёй мяшалі коні капытамі,
З пяском мяшалі дарагую соль.

---

* Здатным на забавы быў сумна вядомы князь Радзівіл. А гэтай здзівіў свет: непадалёк Нясвіжа дарогу засыпалі тоўстым пластом солі, і сярод лета магнат цешыў сябе і гасцей «зімовымі» прагулкамі.

Ну, што панам да іх
людской нядолі?!
Абы свістаў,
як метэор, вазок.
А людзям —
жменьку б солі да фасолі,
А людзям —
солі б шчопаць у гаршчок!

Сяляне князю сыпалі праклёны,
Стругалі чаранкі для кос і віл.
І доўга горкім,
горкім і салёным,
Быў на дарозе ля Нясвіжа пыл.

## ЦЕЛЯШОЎ ДУБ *

1

Зарэчны дуб у тры абхваты
Здаўна сярод палешукоў,
Расхрыстаны і дзікаваты,
Завецца ён — Дуб Целяшоў.

Дымілі ў ціхай вёсцы печы.
Ламалі крылле ветракі.
І на яго крутыя плечы
Буслы сядалі і вякі.

Зямлю свідруе дуб карэннем,
Нязломны, быццам паляшук.
Ён помніць «шведскае паленне»
І як гуляў тут пан Яшук.

На моры хвалі змылі бераг.
На свеце зніклі гарады.
Дуб па-ранейшаму на верас
Увосень сыпле жалуды.

І я праз ціхі тлум вясковы
І цягнікоў далёкі гул
Бягу да Дуба Целяшова,
Спаткацца з Коласам бягу.

---

* У Ганцавіцкім раёне за вёскай Люсіна расце магутны старадаўні дуб. Завецца ён Целяшовым Дубам. Малады Якуб Колас, калі настаўнічаў у Люсіне, любіў марыць пад кронай палескага волата. Аб гэтым расказваюць старажылы вёскі.

2

Закрэсліў час сівыя ранкі,
Калі прыходзіў ён пад дуб.
У голлі вецер, як шарманка,
Наводзіў смутак і нуду.

Смугой спавітыя узлессі
Сярод адчаю і слаты.
Спрадвек не ведала Палессе
Даверу, ласкі, дабраты.

Плылі перад яго вачыма
Ў тумане белым паплавы.
У край далёкі над Радзімай
Трывогу неслі журавы.

За птушкамі у свет нямілы
Памкнуўся б кожны паляшук,
Бо дома шчасце, нібы змылак,
Выслізвае з шурпатых рук.

І нават тут бесперастанку,
Калі хто забрыдзе пад дуб,
У голлі вецер, як шарманка,
Журбу наводзіў і нуду.

3

Сядзіць паэт. Пачатак веку
Над дубам і над ім плыве.
Палешука ён чалавекам
Упершыню тут назаве.

Між раламі у небе гнёзды.
Крычаць вароны і гракі.

І неспакой, і цяжкі роздум
Вярэдзяць сэрца, як грахі.

«Чаго жывём на белым свеце?» —
Спытаў аднойчы паляшук.
На дол лісток жаўтлявы злецеў,
І скаланула ўсю душу:

«Жывы — жывеш. Пасля загінеш.
Вось жолуду — таму прасцей:
Яго у глебу вецер кіне —
Вясною дрэўца прарасце.

У жолудзе прачнецца сіла.
А людзі — тыя ж жалуды.
Іх сілу моцна прысушыла.
Ім даць бы волі, як вады.

Паклікаць іх бы на змаганне.
Паклікаць з цемры да святла.
У барацьбе — выратаванне
Ад крыўды, немачы і зла...»

На міг, як месячык, засвеціць
Усмешка у куточках губ.
Паэт свой роздум на дасвеццях
Пад Целяшоў прыносіў Дуб...

4

Палешукі не два стагоддзі
Свой праклінали горкі лёс,
Цярпелі здзек, і — у народзе,
Як жолуд, моцны гнеў прарос.

На берагах лясной Татаркі
Гарэлі гронкі арабін.

Палалі панскія фальваркі,
І грозна бразгаў карабін.

Нашчадкі Яшука, бы шэршні,
Зашыліся у цёмны схоў.
Твае, паэт, святыя вершы
Паілі воляй змагароў.

Ты вызваленне нёс народу
Ад роспачы эпох былых.
Адчуў, як рэзкі боль,
свабоду
Твой востры зрок і востры слых...

Вятры калмацілі дубровы.
Растаў жыцця былога цень,
І ўжо над Дубам Целяшовым
Заняўся новы ясны дзень.

5

За Люсіна праз тлум вясковы
І цягнікоў прыбойны гул
Я зноў да Дуба Целяшова
Сустрэцца з Коласам бягу.

На ўсходзе неба палавее
І вецер ціха шалясціць.
Да болю родным, блізкім вее
Ад гэтых дарагіх мясцін.

Прастуюць жураўлі у вырай.
Гудуць, як пчолы, правады.
Стаю, чакаю — веру шчыра,
Што прыйдзе Колас малады.

Яго імя ў вясковых хатах
Шануюць, бы радню сваю.
Імя паэта немаўлятам
Бацькі шчаслівыя даюць.

І хай праходзіць год за годам,
І восень спелая плыве,
Між нас, у памяці народа,
Паэт, пясняр між нас жыве!

* * *

Наш шчыры хлеб,
надзённы хлеб,
Нялёгкі ён ва ўсе эпохі.
Спрадвеку
ззяе свежы бохан
Высокім шчасцем на стале.

За ўсё удзячны мы яму,
Яго не кінем
як папала;
Я ў пыле знойдзены кавалак
З вялікім гневам падыму.

Той,
хто не бегаў ад сяўні
І хто адведаў хлеб траякі —
Пшанічны,
жытні
і ніякі,—
Умее працу той цаніць.

## ЗІМА 1974

Што сталася з табой, зіма?
Для Беларусі проста дзіва:
Снягоў няма,
завей няма,
Няма і маразоў шчымлівых.

Лыжня
не кліча хлапчукоў.
Канькі —
як бы асірацелі.
Заечых не відно слядоў
На шэрай пространі аселіц.

Аднак
не гэтае зусім
На сэрцы сёння ў аграномаў.
Яшчэ з маленства нам усім
Трывога іхняя вядома.

Няма марозу —
не бяда.
Вось маласнежжа непакоіць,
Бо ўвесну
дробная вада
Спаўна палеткі не напоіць.

А ў поле глянь —
азімы клін
Загінуць па пагорках можа.

Ды хваляваецца шмат прычын,
І ўсё аднолькава трывожаць.

Таму я сёння нездарма
Прашу,
            блукаючы на ўзлессях:
— Вярніся,
                    родная зіма,
На даўняе сваё Палессе.

## СТАРЫЯ ДОТЫ

Над Шчарай,
                    нібы буданы,
У драбналессі,
                    між балотаў,
Яшчэ з той — царскае — вайны
Старыя засталіся доты.

Ламаўся
          зранены тут фронт,
Павязкі клаў сабе
                    з бетону,
Пакуль
          не зрынуў царскі трон —
Аж трэскі паляцелі з трону.

Даўно няма тваіх слядоў,
Шэрашынельная пяхота,
А тут,
          ля шчарскіх берагоў,
Чарнеюць даўняй сажай доты.

У тыя грозныя часы
Яны усталі,
                    здані бедстваў,
Ля франтавое паласы,
Ля Рэвалюцыі ў суседстве.

## БРЭСТУ

Як многа
сонца на тваіх бульварах!
Як многа
цішыні і чысціні! —
Там, дзе віселі попельныя хмары,
Там, дзе граніт закіпваў у агні...

Мой родны Брэст,
салютамі заліты,
Над Бугам ты кварталамі ўстаеш,
Прамы,
бескампрамісны і адкрыты —
Такі ж,
як і ўсе вуліцы твае.

Успомніў, Брэст,
я пра тваю адвагу,
І кроў мацней ударыла мне ў скронь...
Байцы ў баях забыліся на смагу,
І помсты іхняе
палаў агонь...

У крэпасці магілы пабрацімаў,
Што падалі на Захад галавой,
Каб тут стаяў ты
тварам да Радзімы,
Брэст — пагранічнік,
працаўнік,
герой!

* * *

Сусед мой хадзіў у мінёрах.
Адзін неразлічаны рух,
І — вось найвялікшае гора —
Застаўся суседзе без рук.

Без рук,
што дзяцей калыхалі,
Трымалі касу,
абцугі
І сеялі,
жалі,
аралі,
Складалі на лузе стагі.

Дзве кульці цяпер яму трэба,
Як лялькі,
да скону насіць,
А рук дзеля кожнай патрэбы
У родных і блізкіх прасіць.

І хоць тыя просьбы да ўнукаў
Бывае, пякуць
як агонь,
Ён просіць,
бо ўнукі — ўсё ж рукі —
Здаровыя рукі яго.

## ЗАПАВЕТ

«Бывай, Радзіма! Не здаюся!» —
Штык вывеў словы на сцяне.
Над Брэстам
дзень не развіднеў,
Світальны дзень на Беларусі.

Былога з памяці не сцерці:
Шалёна «юнкерсы» равуць,
І пыл бінтуе галаву
Салдату,
што ідзе ў бяссмерце.

Заслана сонца чорным дымам,
А словы клікалі жывых...
Гарэў высока,
быццам штык,
Радок-уздых:
«Бывай, Радзіма!»

## АГАРОДЫ ХАТЫНІ

Згарэла насенне ў Хатыні,
Гароды травойараслі.
Здалося:
прыйшлі гаспадыні,
На градкі былыя прыйшлі.

Тут ямкі, лагчынкі, разоркі
Даўно зараслі дзірваном.
О, як на магільныя ўзгоркі
Падобны ўсе градкі даўно!..

* * *

Не скрыпі
намёрзлымі дзвярыма,
Нават слова
ўголас не скажы:
Гляне мама сумнымі вачыма —
Цеста ж падыходзіць у дзяжы.

Пірагі расчынены,
ты бачыш,
На дражджах і на адной вадзе,
Дык цішэй,
а то, калі заскачаш,
Кажуць людзі,
цеста ападзе.

Што ж,
было маленства не салодкім:
Тры гады прайшло пасля вайны.
Той пірог
нам святам быў кароткім —
Так жылі мы ў вёсцы не адны.

Словам мамы я тады паверыў
І таму,
хоць час мінуў благі,
Ціха-ціха зачыняю дзверы,
Калі хлеб пякуць ці пірагі.

## АПТЭКА БАБКІ МАР'ЯНЫ

Я помню,
бабуля лячыла
Людзей па вайне
як магла.
І хатка,
дзе зёлкі сушыла,
Вясковай аптэкай была.

Бабулю Мар'яну
ніколі
Ніхто шарлатанкай не зваў:
Гаіліся раны,
і болі
Знікалі ад бабчыных траў.

Калі ж
у самой сіл не стала,
На поле
альбо сенажаць
Бабуля мяне пасылала
Гаючыя травы збіраць.

Збіраў я чабор
і сардэчнік,
І піжму,
і ліпавы цвет,
Бо знаў я,
малы чалавечак,
Што нехта ў пакутах жыве.

Я знаў усе травы і траўкі,
Карэньчыкі знаў,
                                        ад якіх
Камусьці ішло на папраўку
І нехта ачуньваў ад іх.

Хадзіў між палян верасовых,
Хадзіў я ў цішы лугавой,
Каб скарбы папоўніць нанова
Аптэкі бабульчынай той.

* * *

Забыліся пакуты,
слёзы матчыны,
Чарга па хлеб.
Бязладак ля хацін.
І даты круглыя ўжо адзначаны
У круглых і не круглых сірацін.

Як прыйдзецца
жылі,
раслі,
карміліся,
І толькі
не забыліся яны,
Што ў сорак пятым
без бацькоў радзіліся —
Не ўсе дамоў прыходзілі з вайны.

## ХІРАСІМА

Не пярун
раптоўна ў Хірасіму,
Як у дрэва,
стукнуў сярод дня.
Тут пасля стаялі хмары дыму.
Тут пасля стаяла цішыня.

Чорныя асмаліны і раны
І цяпер залечаны не ўсе.
Нібы дуб,
маланкай пашчапаны,
Ажывае горад пакрысе.

Страшны гром той
прагрымеў калісьці,
На зямлю ж і сёння,
як тады,
Сыплюцца пажоўклыя,
бы лісце,
Людзі пасля атамнай жуды.

* * *

На зямлі то войны,
то паўстанні...
Свет ляжаў на вастрыі мяча...
Нашы ж дні
у светлых росах ранніх
Залатымі зліткамі блішчаць.

Грані іх звіняць чароўным гукам...
Хопіць нам,
каб толькі збераглі,
Хопіць нам
і застанецца ўнукам
Радасці спакойнай на зямлі.

## АЛЕНЬ У НЯВОЛІ

Яму б сапернікаў
Хоць на імгненне
Перамагчы у нерушы глухой
І, пратрубіўшы горда,
на каленях
Перад аленіхай
схіліцца маладой.

Яму б у пушчу
вырвацца з вальера —
Туды,
дзе капытоў шалёны стук,
Ды неадольным
устае бар'ерам
Сцяна з жардзін
на цэлую вярсту.

Яму ж цяпер,
аленю у няволі,
Тут застаецца ўцехаю адной:
Трубіць, трубіць
і доўга слухаць з болем
Над пушчай дзесьці
вольны голас той.

## У ПУШЧЫ

Вядзі, сцяжынка,
праз лугі, праз жыта
Туды,
дзе пах чабору і смалы,
Дзе краскамі стракатымі пакрыты
Сунічныя паляны,
як сталы;

Туды,
дзе летні баль спраўляе пушча
На кожным азяродзе і грудку,
Дзе светлым днём
і ночкай невідушчай
Дубок вядзе бярозку за руку

Праз гушчары,
выжарыны і некаш,
Паміж зуброў,
што верасы скубуць,
На астравы,
дзе золакам спрадвеку
Алень нястомна трубіць у трубу...

## ЗУБРЫ

Зубры ідуць,
а побач — зубраня.
Світальны змрок
радзее ў Белавежы.
І зоркі тухнуць,
як агні начлежак,
Над Белавежай на пачатку дня.

Ідуць крутымі сцежкамі зубры,
Таўсматы ельнік,
нібы быльнік, трушчаць.
На вадапой
вядзе іх сярод пушчы
Пушчанскі цар і бацюхна стары.

Сваю ён веліч дзіўную нясе
Яшчэ з вякоў
туманна-старажытных,
Перад турыстамі у першабытнай
І першароднай паўстае красе.

Стары важак запененых зубрых
Падгоніць рыкам,
доўгім і хрыпатым,
І кожны рух яго паўторыць статак,
Як продкаў паўтарае
зубр стары.

* * *

Прыбег сюды,
у цень зялёны бору,
Пасля грымотных праліўных дажджоў,
Каб наталіцца водарам чабору,
Суседства папрасіць у верасоў.

Яшчэ зямля
пад соснамі сырая,
Схаваная
пад чырванню брусніц.
А бор шуміць,
і я ў ім адчуваю
Дыханне стогадовых навальніц.

Дажджы ішлі —
то ціхія, то з ветрам —
Ды сёння з той настырнасцю ідуць.
Яны цякуць цераз лясныя нетры,
Зямлю перамываюць,
як руду.

Пясчаны грунт...
Пясок залатаносны...
Мой родны бор,
ты шмат вякоў вякуй!
Хай па крупінцы залатыя сосны
Дажджамі вымываюцца з пяску.

* * *

Чарнічнік
скрозь паляны зачарніў.
Цямнее бор.
Пільней гляджу пад ногі.
Тут скрозь ялін
і сосен карані,
Як ланцугі,
аблыталі дарогу.

З абдымкаў ёй не вырвацца тугіх,
Ды бор ужо радзее,
бы світае,
І тут,
на ўзлеску,
рвуцца ланцугі
І вольніцаю вольнай праз лугі
Удаль пыліць
дарога баравая.

* * *

З-за лесу хмара наплыла,
Гушкаючы ў далонях гром.
Па колеру яна была
Падобная на чарназём.

На тое поле,
                    што не раз
Прайшоў упоперак і ўздоўж,
Араў і сеяў,
                    зноў араў
І ведаў,
               што цыбаты дождж

Навекі ніткаю адной
Звязаў зямлю і край нябёс,
Дзе з хмары
                    першы гром вясной
Палеткам золата прынёс.

* * *

Ластаўкі —
                    барометры пагоды —
Павісаюць нізка над зямлёй,
Хоць па Брэсцкай —
                    зноў, паводле зводак —
Не ўпадзе ні кроплі дажджавой.

І яшчэ прыродзе невядома,
Што прадкажуць
                    стрэлкі іхніх крыл:
Ці палі,
          абуджаныя громам?
Ці палі,
          засушаныя ў пыл?

Але ўсё ж
                    я веру у прыкмету,
І, напэўна,
                    толькі ад таго,
Што крыляюць ластаўкі,
                              а гэта —
Ёсць жыцця часцінaчка майго!

* * *

Сышла вясенняя паводка,
І не пазнаць цяпер раку.
Рыбацкая старая лодка
У лозах дрэмле на баку.

Вясной уздутая,
бы вена,
Рака плытчэе з кожным днём:
Вады —
мо буслу па калена,
І заблудзіўся недзе гром.

У супакоеных затоках
Жытла не хопіць шчупаку:
Як цяжкая хвароба,
спёка
Да дна высушвае раку.

Пайшоў бы дождж!
Ударыў гром бы!
Ды спёка —
быццам на бяду.
І цiснуць водмелі,
як тромбы,
Далей ад берагоў ваду.

* * *

Як кожны лісцік прагна смокча сокі —
На лета дрэва набірае сіл.
Для пышных крон і ў зацяжную спёку
Не трэба вільгаці прасіць.

Пакуль павее
сіверным марозам,
Яны нябёсам вільгаць раздадуць...
Прыслухайся:
асіны і бярозы
Зімой парожняй бочкаю гудуць.

* * *

Між дрэў
здалёк бялееецца бяроста.
І — цішыня,
маўклівасць,
супакой.
Схіліліся бярозкі, як медсёстры,
Над зломленаю бурамі сасной...

## ПРОДКІ

Даўно
сплылі іх з дымам хаты.
Даўно ляжаць яны між дрэў.
Яны
ні ў чым не вінаваты,
Што іх
жабрацкі лёс сустрэў.

На полі
з раніцы да змроку
Касой махалі і сярпом;
Душыў іх
працай і аброкам
Аблудны панскі аканом.

А часам
недарод здараўся,
Тады
з амвона поп глухі
У чыстых душах калупаўся —
Адшукваў нейкія грахі.

Яны ж
адной жылі віною,
Што шчасця не далі сынам.
Яна ішла
і за труною,
Хоць і не іх
гэта віна...

* * *

Лепей
не прымаць такіх гасцей,
Што на адзіны дзень прыедуць.
Вунь у хаце
вочы ўсё часцей
Выціраюць...
ды завуць абедаць.

Пляшка медавухі на стале,
Нібы чапля,
выцягнула шыю.
І цясней у хаце
і святлей,
Калі дома госці дарагія.

З радасцю адзінай,
што браты,
Правядуць мяне
аж на гасцінец,
Пакланюся ўсім я перад тым,
Як хаціну бацькаву пакінуць.

І напомніць
нізенькі вушак
У той міг,
як рушыць у дарогу,
Што прыгнуцца трэба
і ў дзвярах
Пакланіцца роднаму парогу.

* * *

Як бы
край ні вабіў невядомы,
Родны кут,
я не схлусіў табе:
Дні маленства,
што мінулі дома,
Днём і ноччу
клічуць да сябе.

І заўсёды
ў выраі не блізкім
Ёсць патрэба
бачыць родны дом:
Да зямлі сваёй
хілюся нізка
Ластаўкай перад дажджом.

## ЛЬВОЎ

Спачатку
трохі дзіўнавата
З бакоў рыжэлі паплавы,
Затым — грудкі,
як ільвяняты,
Затым — пагоркі,
як ільвы.

Вакзал сустрэў
нязвыклым тлумам,
І ледзь пакінуў я вагон,
Як у абдымкі,
быццам кума,
Хапіў мяне густы перон.

Іду,
жыву праспектам Львова
І «дзэкаю» з ім трохі я,
Хоць украінская тут мова
Здаецца роднай,
як свая.

Іду,
і коцяцца трамваі:
Пад'ём і спуск,
пад'ём і скат.
З-за дрэў
пагоркі выглядаюць,
Нібы разведчыкі Карпат.

Іду па горадзе,
дзіўлюся.
Ва ўсмешках колькі цеплыні!..
Тут нешта ёсць
ад Беларусі
У гэтай мілай дабрыні!

Тут
не хварэць мне настальгіяй,
Не быць
у скрусе і бядзе.
— Дзень добры, львоўцы дарагія!
І чую скрозь я:
— Добры дзень!

## ЛАЗІНО

А госцем быць —
ніякавата,
Ды тут,
за Львовам,
як яно?..
На выспы высыпала хаты
Сяльцо малое — Лазіно.

То ўверх,
то ўніз вілася сцежка,
Калі мы выйшлі за шашу,
А кукуруза на абмежках
Нам лапатала:
«Вас праш-шу!»

Пагоркі,
як наўмысне,
слалі
Пад ногі схілы,
каб мы з іх
Хутчэй збягалі,
каб спяшалі
Хутчэй да родзічаў сваіх.

І поўным сонцам у блакіце,
І родным гукам,
і слаўцом,
І перапёлкамі у жыце
Сустрэла ласкава сяльцо...

А ў вечар
              ля вазоў астылых
Пад зорным небам Лазіно
З цыбуляй,
              з кропам наварыла
Нам сопкай бульбы чыгунок.

## НАВАСЕЛЛЕ

Бялелі свежым тынкам сцены,
І дом уздрыгваў пры шашы,
Што нават дах тэлеантэнай,
Нібы вусамі, варушыў.

Прыйшлі суседзі на ўваходкі,
Іх дом мелодыяй сустрэў:
Кляновы ганак кожнай сходкай,
Як быццам клавішам, звінеў.

Сюды я трапіў госцем ціхім,
А пасадзілі ў лепшы кут.
«Буслы» на пляшках і «буслíхі»
Застолле весялілі тут.

Быў новы дом з дзвярыма насцеж
Наідавоку,
як тавар.
За новы дом,
за наша шчасце
Наліў мне чарку гаспадар.

— Тут, ля Карпат, гаёў нямнога,—
Так шчодры родзіч гаварыў,—
Ды лес на столь і на падлогу
Нам з Беларусі шлюць сябры...

І зноў застолле гаманіла,
І ўсе мяне віталі зноў,

Як брата,
з кім іх парадніла
Да працы вечная любоў.

Казалі тосты,
як умелі,—
Ажно разгойдвалі сталы,—
За добра ўбраныя пасцелі,
За неабжытыя вуглы,

За поўны дом багацця,
скарбаў
Па-над засмужанай гарой,
Дзе пахла тынкам,
свежай фарбай
І беларускаю сасной.

## ВЕЧАРНІЦА

На сажалках,
ля вербаў ніцых,
Дзе бераг гладкі,
нібы стол,
Сабраліся на вечарніцу
Дзяўчаты,
хлопцы з бліжніх сёл.

Туман клубіўся пры гасцінцы,
І ўжо малініўся усход.
Спявалі шчыра украінцы,
У песнях славілі народ.

А гарманіст ні на мінуту
Баяна з рук не выпускаў:
Іграў факстрот,
«Чырвону руту»,
«Лявоніху» і «Гапака»...

Затым пад ціхі плёскат хвалі
Дзяўчаты зноў і парубкі
Спявалі,
быццам вышывалі,
З маёй радзімы «Ручнікі».

## СЯСТРА

З Грыцьком
сябрамі б мы не сталі —
Перакурылі б і пайшлі,
Калі б
сястру тут не спаткалі,
Калі б
сястру тут не знайшлі.

Яна вадзіла нас у поле,
Для нас распальвала кастры.
Пад яварам
ці пад таполяй
Штовечар чуўся смех сястры.

Ішлі на рэчку, і вядзерца
Нясла, паўнюткае, яна.
На вечарніцах
ля азерца
Яна блукала да відна.

Сябрамі лепшымі не сталі б
На Украіне я з Грыцьком,
Калі б
сястры такой не знalі,
Якую
Дружбай мы завём.

## КАСТУСЮ КАЛІНОЎСКАМУ

Равы,
гарадзішчы,
кurганне —
Далёкіх падзей галасы...
Не раз прашумелі паўстаннем
Палескія нашы лясы.

Асінавым лісцем магнаты
Дрыжэлі
пры слове — Кастусь!
Паўстанне гуло,
як пачатак
Свабоды тваёй,
Беларусь.

Ты лёсы людскія звязала —
Нібы перавясла снапы...
Паўстанцы ішлі без прывалаў.
Курэў над калонамі пыл.

Пад схованю пушчы да рання
Палалі іх помстай кастры...
Таму і шумяць,
як паўстанне,
Па ўсёй Беларусі бары.

## СВІЦЯЗЬ

Трывога свіцязянскіх чаек.
Кругі,
            як сподкі,
                        на вадзе.
У госці некага чакае,
Чакае возера людзей.

У вясні час
                    і сярод лета,
Як самых лепшых сваякоў,
Чакае возера паэтаў
І спевакоў,
                    і мастакоў.

Усё ў мясціне старажытнай
Гасцям тут рада дарагім.
Нібы
        хусцінкаю блакітнай,
Крылом махае чайка ім.

## НАЧНОЕ НЕБА

Вылежвалася днём, няйначай,
Яно, нібы папар, і ўжо
Маладзічок у хмарках скача,
Як па няўдобіцы плужок.

Па ім прыціхлы вечар сее
Мільёны год мільёны зор.
Начное неба,— як засевак,
Дзе ні абмежкаў, ні разор.

Маладзічок лязо не сплюшчыць,
Арэ ўсё неба, як папар,
Затым яшчэ і поўня лушчыць
Пасля яго палянкі хмар.

* * *

Гарачы ліпень
самлеў на ліпах,
У жоўтым цвеце
там звон пчаліны.
У хвойным лесе
салодкі ліпень
Зачэрпне дзеткам вядро маліны.

Уранні ў хатах аб'е парогі:
На тое ж ліпень,
каб спалі мала.
У садзе ліпень —
садоўнік строгі,
На лузе ліпень —
касец удалы.

Затым на нівах,
дзе млее жыта,
Даспеліць зерне — сялу на мліва.
Зрабіў бы болей,
ды час пражыты.
«Бывай, мой ліпень! — гаворыць жнівень.—

Мне застаюцца цабры маліны,
Сады і сонца,
што меней грэе,
На ліпе квецень і рой пчаліны,
Касцы — на лузе,
у полі — жнеі...»

## КАСАВІЦА

Луг паслаўся зялёнай хмурынай,
Што травой, як даждЖом, набракае,
І струменьчыкі спелых травінак
Стогалосага ранку чакаюць.

Калі бліснуць маланкамі косы,
Загамоняць сталёвыя ў травах,
Пацякуць ручаіны пракосаў
Да прыціхлай альховай канавы,

Дзе крычаць устрывожана чайкі,
Дзе над лугам мігцяць бліскавіцы...
Занялася імкліва, адчайна
Касавіца — мая навальніца!

* * *

Яшчэ заўчора
шчыраваў тут жнівень
І з рокатам
хапалі за крысо
Камбайны
патрывожаную ніву,
Сагнутую
пад ношай каласоў.

Размотвалі
ад ранку матавілы
Пшаніцы пераблытанай клубок.
Смяяўся жнівень:
поле урадзіла,
Ажно зямля схілілася набок!

* * *

Ноч прайшла
грымотна і трывожна,
Цёмны лес
расстрэльвала дажджом.
І асіннік тросся прыдарожны,
І хадзіў арэшнік хадуном.

А маланка
ярасна паліла
І дубы шчапала з вышыні.
Не было,
здавалася, той сілы,
Каб магла стыхію супыніць.

Толькі ж
не палічыш сінім ранкам
На кустах,
паніклых у журбе,
Спаленых арэхаў,
што маланку
Выклікалі ноччу на сябе.

* * *

У маладзік
зярняты прараслі,
А наліліся,
гледзячы на поўню:
Цяплом,
расой і сокамі зямлі
Дапоўна жнівень
каласы напоўніў.

І на саломцы
сціснуў вузялкі,
Не даў ёй выпіць
лішняй ні расінкі,
Каб на зямлю
тугія каласкі
Зярнятка не ўранілі на зажынкі,

Каб шчасцем
быў паўнейшы кожны дом,
Каб паміры́ў
былых сяброў дзе-небудзь
За самым круглым,
як зямля, сталом
Суддзя наш строгі —
свежы бохан хлеба.

* * *

Ты
    дажджы прыдумала сама
І сама
        хмурынкай стала шэрай.
З-пад густых надброўяў,
                    як туман,
Выплывае смутак недаверу.

Не пакрыўдзіў я
            і не зманіў.
Толькі часам трэба задажджыцца,
Каб святой,
        чысцейшай чысціні
У вясновых ліўняў павучыцца.

Першы дождж,
            ці будзе ён штогод,
Усё роўна чысціню вітаю
І без страху,
        бы громаадвод,
Я маланкі гнеўныя прымаю.

Што на сэрцы
            на тваім ляжыць?
Мусіць,
        бровы хмурыш ты дарэмна?
Тваё сэрца,
        што мне ні кажы,

Як палі спякота,
                    паліць рэўнасць.

Той жа смутак,
                    бачна па вачах,
Хуткацечны, пройдзе мімаходам...
Вось і гнеў
                    ступіўся і зачах,
І бярэцца зноўку на пагоду.

* * *

Ведаў я,
што недзе ты не спіш,
І таму прыйшоў нябачна сёння
Да цябе,
раскалыхаўшы ціш,
Каб сагрэцца у тваіх далонях.

Сэрца я сваё табе прынёс,
Перапоўненае навальніцай,
Губ тваіх
усмешак,
шчасця слёз
З тых вачэй,
дзе свецяцца зарніцы.

Дык не стой ля весніц,
нібы цень,
Не хадзі ўстрывожана ля вокан:
Да відна ж я ў гэтай немаце
Буду чуць прыглушаныя крокі!

Буду чуць,
як промні празвіняць.
Буду побач чуць тваё дыханне.
...У грудзях прыціхла цішыня
Перад надыходзячым світаннем.

* * *

Поўня,
нібы лотаць,
да світання...
Пазалота на тваёй шчацэ...
Сёння на суцішанай рацэ
Перапоўнен я тваім дыханнем.

Ноч разліта,
цёплая, густая,
Над вярбой,
дзе наш касцёр зачах,
Дзе на чоўніку твайго пляча
З вечара я ў ранак выплываю.

* * *

У добры час,
мае сяло,
Калі ў асенні дзень асмужны
Па учарашняй пожні дружна
Выходзіш зноўку на сяйво.

З надзеяй светлай я іду
Па пераворанаму полю,
Такому роднаму да болю,
Што сум адводзіць і нуду.

Шчаслівы я у гэты міг,
Калі кладзецца зерне ў глебу.
У добры час,
мой творца хлеба!
Вітанне
плёну рук тваіх!

* * *

Буслы паляцелі...
Нядаўна яны
Над свежай раллёй праплывалі,
Над рыжымі вёскамі,
дзе ў каміны
Вясной немаўлят укідалі.

На іх паглядзець
кожны голаў задзёр,
Рукой памахаў на дарогу.
А будуць вяртацца,
памчацца на двор
Усе —
ад старых да малога.

Буслы паляцелі...
Іх ранняй вясной
Край смехам дзіцячым прывеціць.
І здзівяцца, пэўна, буслы: «А зімой
Адкуль жа з'яўляюцца дзеці?»

* * *

Стаяць у садзе
голых дрэў скульптуры.
Мае сляды
між дрэў не замяло.
І ўсё ярчэй,
калі праходзяць буры,
Над садам зор палярнае святло.

І дораг мне
і ўсё мацней люблю я
Той час,
калі над сцішаным сялом
Вялікая Мядзведзіца палюе
За вольным
маладым маладзіком.

І дарага
марознае світанне,
І любы мне
глыбокі снегастой
І дзіўнае прыроды уз'яднанне
З жыццём маім
і існасцю маёй.

## ЗРУБ

З сасён карабельных
стрыжнёвых,
Пакуль
без дзвярэй і акон,
На вуліцы
вырас зруб новы.
Высокі.
Prасторны.
Як звон.

Зруб
свежай жывіцай сачыўся,
Свяціўся,
пад сонцам лунаў;
Усім наваколлем дзівіўся
І ўсё наваколле здзіўляў.

Дзівіўся,
што выпрастаў крокві
Застылымі гукамі — «а-а-а».
І людзі
суцішвалі крокі,
І радасць на тварах была...

## АДВЕДЗІНЫ

Суседкі... Сваякі...
Далёкія і блізкія...
Схіляюцца жанкі
Над новенькай калыскаю.

У Насты повен дом.
Гамонка з самай раніцы.
І дрэмле за сталом
Бабулька-спавівальніца.

— Жанкі, шчэ па адной!
Што маю, тым і рада я...
Навокала — спакой,
Замоўкла нават радыё.

Цяпло ў вачах людскіх,
Замужніх і удовіных.
Паўсюдна галаскі:
— Гадуй сынка здаровенькім!

— Каб ён усіх бароў!
— Не знаўся каб з трывогамі!
— Заўсёды каб ішоў
Шчасліваю дарогаю!..

Такі ў нас звычай ёсць,
Здаўна ў нас так заведзена:
Той самы лепшы госць,
Хто прыйдзе у адведзіны.

## БЫЛЬ ПРА БАБУЛЬКУ І ЖУРАЎЛЯ

Павадзіўся журавель
Да бабулькі ў канапель.
*З народнага*

Аж буяла ў агародзе,
Аж шумела канапель,
Ды панадзіўся,
як злодзей,
У каноплі журавель.

Выйдзе раніцай бабулька —
У гародзе журавель.
— Кыш-ш! Акыш-ш!
Ах, да макулькі
Падзяўбеш ты канапель!

Уцякаў бядача з градкі,
Ад бабулькі уцякаў.
Канапляныя зярняткі
Ён на градцы пакляваў.

Жыў,
не знаўся з галадоўкай,
Покуль ліст не пажаўцеў.
На другое ж лета зноўку
Ён да бабкі прыляцеў.

Пасядзеў ля плота трошкі.
Нешта ж бабка не бяжыць?
Паглядзеў —
на вокнах дошкі
Наўскасяк,
нібы крыжы.

Бабкай многа раз пракляты,
Горка думаў журавель:
«Ну, няўжо не выйдзе з хаты,
Не прагоніць з канапель?»

Ён назад ляцеў,
нязд́алы,
Сумным-сумны журавель,
А ў гародзе
аж буяла,
Аж крычала канапель.

* * *

Я еду ў Мінск —
шчаслівая дарога!
Не ў госці еду да сівых муроў:
Там у мяне
хлапцоў сяброўскіх многа,
Як на Палессі
многа ў нас буслоў.

Сябры
даўно дамоў не прылятялі,
І ведаць ім
зайздросна ўсё ж было б,
Ці салаўі
ў нас рана адспявалі,
Ці шмат
грыбоў у пушчы нарасло.

Пра ўсё,
пра ўсё сябрам сказаць мне трэба:
Што ў вёсцы
сумна трохі нам без іх,
Што ў нас
хапае хлеба і да хлеба,
Што ў нас нявест —
як красак лугавых.

І, можа быць,
каго назад прывабіць
Па тых мясцінах запаветных сум,

Дзе бабінае лета
дзетак бабіць
І клён гарыць —
вясёлы, быццам кум.

* * *

Пражыты дзень,
ты памяццю багаты:
Пражыў цябе і знаю,
што пражыў,
Перад людзьмі
ні ў чым не вінаваты —
Давер'ем,
як сумленнем, даражыў.

Свяціла сонца,
і бесперастанна
Ішла імжа,
а потым снег ляпіў.
Пражыты дзень
не мог быць пастаянным,
І я яго за гэта не судзіў.

Я памыляўся,
быў у гневе страшны.
Гучаў праклён памылцы,
быццам стрэл.
Я ўдзячны, дзень, табе, ўчарашні,
Што новы дзень з усмешкаю сустрэў.

Перад людзьмі
ні ў чым не вінаватым,
Мне вечна іх давер'ем даражыць.
Пражыты дзень, ты памяццю багаты:
Усё ж сумленна я цябе пражыў!

* * *

Дзень нараджаецца зноў новы.
Усход ружовіцца ледзь-ледзь.
І вось на небе выбухова
Бушуе вогненная медзь.

Дзень нараджаецца без болю:
Вакол ні зыку — ціш вакол.
Усё замерла мімаволі —
Усходзіць сонца на прастол!

Усё звычайнае, зямное,
Я ж не магу зноў разгадаць:
Адкуль у ім бярэцца тое,
Што сэрца змусіла спяваць?

ЗМЕСТ

На белорусском языке

Виктор Константинович Гордей

КОСОВИЦА

Рэдактар І. І. Калеснік. Мастак Ул. Ул. Даўгань. Мастацкі рэдактар М. Р. Казлоў. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар Л. М. Вайцяшэня.

АТ 04202. Здадзена ў набор 17/VII 1974 г. Падп. да друку 28/XI 1974 г. Тыраж 3000 экз. Фармат $70 \times 90^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 2,92. Ул.-выд. арк. 2,22. Зак. 1326. Цана 23 кап.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Савецкая, 19.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

**Гардзей В.**

Г 20 Касавіца. Вершы. Мн., «Маст. літ.», 1975. 80 с.

Нялёгкае мінулае роднага краю і светлая ява сённяшняга Палесся, праца хлебаробаў, непаўторная прыгажосць беларускіх краявідаў — асноўныя матывы першай кнігі маладога паэта Віктара Гардзея.

Г $\frac{70403\text{-}010}{М302(05)\text{-}75}$ 70-75 Бел 2